Працоўная бедната ўсіх краёў, злучайся! Цана 15 к.

# Грамадзянін

выходзіць два разы у тыдзень у аўторкі і пятніцы.

**Каштуе:**
на 1 месяц . . . . 1 р.
на 3 мес. . . . . . 3 р.

Орган Левае Фракцыі Беларускае Социялістычнае Грамады.

**Цана абвестак:**
на 1-ай стр. . . . . 80 к.
на 4-ай стр. . . . . 40 к.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: **Віленская вул № 33 кв. 2** (уваход з вуліцы).
Рэдакцыя адчынена: ад 10 — 1.

**№ 4.** **Вільня, 24 студня 1919 г.** **Год I.**



## Маніфэст Беларускага ураду Радаў.

МЕНСК, 2-га студня. Апублікаваны маніфэст Часовага Работніцка-Сялянскага Ураду Радаў Беларусі, у каторым, між іншым, кажацца:

„Таварышы і браты-работнікі, бяднейшыя сяляне і чырвона-армейцы Беларусі!

Гаротная, змучаная Беларусь, Беларусь работнікаў і бяднейшых сялян, што заўсёды была крыніцай збагачэньня польскіх паноў, злодзееў-купцоў і ўсіх іншых багатыроў-крывапіўцаў, а потым захопленая расейскім крывавым самадзяржаўем з яго генэраламі і ўсялякім чыноўніцтвам, абманываная з касьцельных амбон ксяндзамі і з аўтароў папамі, скаваная з ног да галавы ланцугамі няволі, цярпеўшая ўвесь час зьдзекі і пераджыўшая цяжкое ярмо нямецкай буржуазіі—цяпер асвабаджаецца ад вякавой мукі сьмелым націскам Чырвонай Арміі і прылучаецца да новага свабоднага жыцьця, што будуецца на асновах коммунізма, на фундамэнце міжнароднага злучаньня працоўных.

Вялікая кастрычнікавая (акцябрская) рэволюцыя ў Расеі, парухаўшы панаваньне паноў, хвабрыкантаў, ксяндзоў і папоў, панаваньне фальшу, няволі і ўціскаў — заклала фундамэнт новага ладу жыцьця ўладаю самаго працоўнага народу; пачаўшы з Расеі, яна запаліла сусьветны агонь асвабаджэньня працаўнікоў ад уціску паноў і капіталістаў. Полымя гэтага агню, з кожным днём і з кожнай гадзінаю абымае ўсё вялікшы простор, пераходзіць з аднаго краю ў другі, асвабаджаючы працоўныя масы ад цемры і няведаньня, маўчаньня з прынукі і пакорнасьці, кліча да паўстаньня проці ўціскаючых і пастрашае ўсіх заклятых непрыяцеляў волі і рэволюцыі рашчыщчаць шырокую чырвоную дарогу да панаваньня коммунізма, да панаваньня братняга еднаньня працаўнікоў усяго сьвету.

Чуючы і бачучы сваю хуткую загубу, непрыяцелі рэволюцыі, каторая нясе ўсю паўніню ўлады на зямлю рабочаму і беднаму сялянству, кідаюцца і выбіваюцца з сіл, стараючыся фальмам і подкупамі сабраць навакол сябе сілы, каб пайсьці на рэволюцыю і задушыць яе грозны ход.

Але дарма ўсе іх надзеі, дарма ўсе іх стараньні; магутны вал рэволюцыйнай волі, рухаючай рабства, нішчучай усякую няволю і асвабаджаючай працоўны народ, ня сустрэне на сваёй дарозе ніякіх перашкод.

Работнікі і сялянская бедната і чырвона-армейцы Беларусі!

Рухаючы будынак цяжкой няволі, асушаючы моры сьлёз і рэкі крыві, пралітай на шырокім просторы гаротнай Беларусі, спустошанай страшнай вайной, пачатай царамі і багатырамі дзеля сваіх інтарэсаў, згубіўшай без патрэбы міліёны работнікаў і сялян, да вас ідзе ў косах сонца з прыветным клічам рэволюцыі, каторая нясе вам асвабаджэньне і ўладу і панаваньне разам з працоўнымі народамі Расеі, Літвы, Украіны і Латвіі. З сягоньняшняга дня становіцеся і вы вольнымі і паўнапраўнымі гаспадарамі вольнай Незалежнай Беларускай Социялістычнай Рэспублікі Радаў. З сягоньняшняга дня Беларуская Рэспубліка Радаў становіцца рэспублікай працоўнага народу работнікаў, сялянскай бедноты і чырвона-армейцаў Беларусі. Усе, што пасягалі дагэтуль на працоўную Беларусь— буржуазныя прадажныя ўрады, урады паншчыньнікаў-памешчыкаў, фабрыкантаў і купцоў, падзержываныя прадажным духавенствам — ці гэта рада, нямецкая окупацыйная ўлада, польскія і украінскія

**Таварышы! На Вашым абавязку ляжыць, каб выходзіла Вашая партыйная часопісь у роднай Вашай мове.**
**Усе павінны купляць і пашыраць сваю сялянскую і работніцкую газэту!**

захопнікі—лічуцца адгэтуль скіненымі і абвяшчаюцца з усімі сваймі паплечнікамі і аднадумцамі найгоршымі злосьнікамі вашымі і працаўнікоў усяго сьвету, вартымі безшчаднай рэволюцыйнай кары. Уставайце ўсе на абарону Соцыалістычнай Радавай Працоўнай Рэспублікі Беларусі, няхай з усходу на заход і з поўначы на паўдня прагучыць гэты кліч па ўсім прасторы і прымусіць усіх да аднаго пролетарыяў і бедных сялян стаць пад чырвоны флаг сусьветнай рэволюцыі, каб аб вашы загартаваныя сьцягі разьбіліся ўсе атакі цёмных сіл непрыяцеляў рэволюцыі і беднага працоўнага народу".

Маніфэст падпісалі старшыня Часовага Работніцка-Сялянскага Ураду Беларусі *Д. Жылуновіч* і члены ўраду *А. Мясьнікоў, С. Іванов, А. Чарвякоў* і *І. Рэйнгольд.*

## Зьезд Радаў Беларусі.

1-га лютага 1919 году будзе ў Менску Зьезд Радаў Работніцкіх, Сялянскіх і Чырвонаармейскіх дэпутатаў Работніцка - Сялянскай Савецкай Рэспублікі Беларусі.

Норма прадстаўніцтва: Губэрскія Рады зьездаў выбіраюць па адным прадстаўніку ад кожных 25000 жыхараў, месты маючыя балей, чымся 5,000 жыхараў пасылаюць аднаго прадстаўніка ад кожных 5.000 выбіральнікаў. Дэлегаты павінны быць 1-га лютага ў Менску ў мандатнай камісіі.

## Да каго прылучацца.

У апошнія часы вельмі шмат гавораць і пішуць аб прылучэньні Літвы то да Польшчы, то да Маскоўшчыны, гавораць і пішуць так сама шмат аб прылучэньні Беларусі. Адны хочуць прылучыць Беларусь да Польшчы, другія да Расеі.

Вось-жа мы і разьбяром гэтыя два імпэрыалістычныя пагляды, каторыя так актыўна цяпер прапаведуюцца як у газэтах, так і вусна—пагляды, каторыя па свайму унутранаму аснаўному свойству фактычна аднолькавы, бо яны аднолькава частуюць нас панаваньнем адной нацыі над другой, аднолькава кажуць аб народзе першага гатунку і аб народзе другога і г. д. Чаму гэта яны ўсе так многа крычаць цяпер аб прылучэньні і каму карысны ўсе гэтыя прылучэньні? Хто зацікаўлены, напрыклад, каб Беларусь была прылучана да Польшчы? Здаецца ўсім ясна хто зацікаўлены—зацікаўлены тут польскія паны-памешчыкі, каторых на нашай бацькаўшчыне, дзякуючы гвалту і зьдзеку буржуазна-капіталістычнага ладу мінуўшых вякоў, ёсьць шмат і каторыя хочуць ратаваць свае маёнткі. Яны добра знаюць, што гэта такое беларускае нацыянальнае адраджэньне, яны яго баяцца, як чорт крыжа, бо ведаюць, што беларускі народ ёсьць самы дэмакратычны народ ува ўсім сьвеце і што калі ён будзе мець уладу ў сваіх руках, дык ведама ён установіць самыя справядлівыя дэмакратычныя парадкі, г. зн. у першы чарод ён без усялякага выкупу адыме ад гэтых польскіх паноў усю зямлю з лясамі і абшарамі балот і вазёр.

Беларус гэта мужык, гэта сялянін земляроб і разам з панам ён ніколі ня ішоў і ня пойдзе. Ен быў забіты, быў „дурны як варона", як гэта казалі паны, але дух праўды не пагас у яго душы і цяпер, калі настаў час расплаты, калі працоўны народ захапіў у свае мазольныя рукі ўсю ўладу на Беларусі—уся гэтая чорная панская хэўра крычыць аб прылучэньні Беларусі да Польшчы, бо спадзяецца, што, злучыўшыся з крывавымі легіонамі Пілсудзкага, разам задавіць рэволюцыйны рух у нашым краі, каб потым учыніць сваю дзікую расправу з нашым беларускім сялянствам глыбока нацыянальна-соцыялістычным рэволюцыйным рухам. Яны хочуць узноў вярнуць старыя парадкі, яны ўзноў хочуць устанавіць „паншчыну". І зусім ім не карысна, каб была Беларуская Рэспубліка Радаў, ось дзеля чаго яны і крычаць аб прылучэньні Беларусі да Польшчы і агітуюць проці беларушчыны.

Другія шмат гаманяць і падымаюць шуму аб прылучэньні Беларусі да Расеі. Але тут ужо ня панскія інтэрэсы бароняцца, а каставыя інтэрэсы чыноўніцтва, інтэрэсы маскоўскай бюрократыі, каторая праз дзесяткі гадоў маскоўскага панаваньня зьдзеку і ўціску нашага нацыянальнага „я", зьвіла сабе ў нашым краі досіць цёплыя гнёзды, каторыя цяпер з наступленьнем сялянска-работніцкай улады, калі ўсе адміністрацыйныя мейсцы будуць заняты мужыцкімі сынамі—само сабой разумеецца, што цяпер усе іх гнёзды будуць паруханы, каб навет і памяць аб іх счэзла ў народзе. Дык ось яны бароняць свае чыста каставыя бюрократычныя інтэрэсы, крычаць, як тое чорнае вараньнё аб прылучэньні нашай бацькаўшчыны да Расеі.

Праўда, усе свае праўдзівыя мэты яны цяпер прыкрываюць харошымі слаўцамі і дэлікатнымі з мужыком адносінамі, але мы добра павінны ведаць, што як ваўка не кармі, а ён усё ў лес цягне. Мы цьвёрда павінны стаяць на

сваім і з ганебнасьцю адкідаць ад сябе ўсіх гэтых былўшых нашых апякуноў. Не за прылучэньне Беларусі да Польшчы ці да Расеі мы павінны стаяць, а за свабодны хаўрус усіх народаў усяе зямлі. Мы павінны бараніць сваю маладую радавую Беларусь, каб потым была створана сусьветная радавая рэспубліка, куды Беларусь увойдзе як адна з раўнапраўных яе часьцей.

*А. Небарака.*

## Што такое улада сялянскіх и работніцкіх Радаў.

«Рэволюцыйная ўлада Радаў» — вось той лёзунг, які быў выстаўлены яшчэ ў 1905 гаду паўстаўшым працоўным народам проці царскага паліцэйска-жандарскага абсолютызму. Яшчэ ў 1905 гаду стыхійная творства рэволюцыйнага руху падказала народным масам гэтую зусім правільную форму рэволюцыйнай барацьбы з старым буржуазна-капіталістычным ладам грамадзкага жыцьця, а рэволюцыйны рух 1917 году яшчэ больш ярка выкрысталізаваў формы арганізацыі гэтае ўлады працоўнага народу: — Рады сялянскіх, работніцкіх і салдацкіх дэпутатаў.

Рэволюцыйны энтузіазм і прасьвятленьне сьвядомасьці шырокіх слаёў народных мас, каторыя з самага пачатку рэволюцыйнага руху аддалі ўсе свае сымпатыі і веру толькі гэтым Радам адказаўшыся падчыняцца другім, якім-бы там ні было «органам уласьці» — зрабіў гэтыя Рады працоўнага народу адзіна магчымай фактычнай уладай.

Лёзунг «уся ўлада сялянскім і работніцкім Радам», гэта ёсьць зусім соцыялістычны лёзунг. Уся ўлада сялянскім і работніцкім Радам, гэта азначае — ўся ўлада тым, хто сам працуе, хто ў поце чала дабывае сабе хлеб; гэта азначае, што ўся ўлада павінна належыць толькі працоўнаму народу, а ня тым эксплуататарам і паразітам, каторыя самі нічога ня робячы жылі карыстаючыся яго крывавай працай.

Усе соцыялістычныя тэорыі заўсёды аддзялялі асобу працоўнага народу ад асобы эксплуататара і заўсёды прызнавалі правамочнымі гаспадарамі над усім сьветам і на карыстаньне ўсім дабром жыцьця, толькі за працоўным народам.

Уся соцыялістычная літэратура нас вучыць, што ўся людзкая грамада дзеліцца рэзка на дзьве праціўныя сабе часткі. Адна частка людзкой грамады складаецца з працоўнага народу: сялян і работнікаў, каторыя на палёх, хвабрыках і заводах сваёй крывавай працай ствараюць усе тыя рэчы, чым карыстаюцца другія. Памешчыкі, хвабрыканты і капіталісты разам з цэлай хэўрай сваіх падлыжнікаў вызыскуюць з працы сялян і работнікаў пакідаючы іх бяз куска хлеба ў голадзе і беднаце. Вось дзеля чаго ўсе гэтыя капіталісты, памешчыкі і хвабрыканты, усе гэтыя эксплуататары і паразіты, ці інакш кажучы ўся гэтая буржуазія не зьяўляецца часьцю працоўнага народу, а яго ворагамі. Вось дзеля чаго ўсе соцыялісты стаяць на грунце клясовай барацьбы, на грунце змаганьня працоўнага народу з яго лютымі ворагамі—буржуазіяй.

Справа асвабаджэньня працоўнага народу ёсьць справа яго ўласных рук і правядзеньне ў жыцьцё ўсіх соцыялістычных лёзунгаў бязумоўна патрабуе, як часовай пераходнай меры, дыктатуры і ўлады працоўнага народу. Органамі гэтай рэволюцыйнай улады, органамі праўдзівай дыктатуры працоўнага народу зьяўляюцца сялянскія і работніцкія Рады, як пярэдні праўдзівы авангард сусьветнай соцыялістычнай рэволюцыі. У гэтым і ёсьць уся вялізная сіла рэволюцыі, калі ўвесь працоўны народ, усе эксплуатаваныя арганізаваны ў свае сялянскія і работніцкія Рады, выступаюць агульным фронтам проці сваіх угнетацеляў за агульнае асвабаджэньне ўсяго працоўнага народу; калі ў крывавым змаганьні сялянска-работніцкая ўлада Радаў, праўдзівая ўлада працоўнага народу з кожным днём здабывае сабе ўсё новыя і новыя пазіцыі і мы бачым, як стары аджыўшы ўжо свай век буржуазна-капіталістычны строй здае свае пазіцыі і блізіцца той дзень, калі над асвабаджанай з чэпкіх рук капітала Эўропай будзе разьвівацца чырвоны штандар сусьветнай згоды і братэрства ўсіх працоўных народаў.

*Антон Небарака.*

(Далей будзе).

## Чырвоны знак.

Кроў нашу льлюць даўно ўжо каты,
Льле горкі сьлёзы кожны з нас.
Надыйдзе хутка дзень заплаты,
Паны, судзіць мы будзем вас!
Паны, судзіць мы будзем вас!

Гэй-жа ўраз, гэй-жа ўраз гукнімо:
Наш знак лапоча пад хмарамі;
Нясе ён суду гром, лепшых дзён
Надзею нашу адну!
Як кроў пад небам чырванее —
З крывавай працы вырас ён!
З крывавай працы вырас ён!

Хоць злыдні хочуць, ночкі дзеці,
Пэрвану нітку ўзноў зьвязаць,
У труху ўсё ліха сатрухлее,
Дабро-жа будзе век трываць!
Дабро-жа будзе век трываць!
Гэй жа ўраз, гэй-жа ўраз гукнімо...

Стары парадак пахіліўся,
Упадзе — гэта-ж нам жыцьцё!
Супольна будзе тады праца,
Супольна будзе і жніво!
Супольна будзе і жніво!
Гэй-жа ўраз, гэй-жа ўраз гукнімо...

Браты, хай кожны пасьпяшае —
Адно-ж нам думаць і рабіць!
Хто рэчку быстру затрымае,
Скуль сілу гэткую дабыць?!
Скуль сілу гэткую дабыць?!
Гэй-жа ўраз, гэй-жа ўраз гукнімо...

Вон зьдзірцаў, вон цара з панамі!
Парадак новы зробім самі —
Ня будзе крыўды там ні бед!
Ня будзе крыўды там ні бед!

Гэй-жа ўраз, гэй-жа ўраз гукнімо...

## ЛАТВІЯ.

### Зьезд Радаў Латвіі.

РЫГА. 16-га студня. 13 студня пачаўся зьезд Радаў Работніцкіх Дэпутатаў Латвіі. Зьехалася 520 дэлегатаў.

## НЯМЕЧЧЫНА.

### Выбары па Ўстаноўчы сэйм.

МЮНХЕН. 15. I. L. T. B. «Vossische Zeitung» наказавае: рэзультат выбараў у Мюнхене і ваколічных вёсках гэткі: соцыял-дэмакратычная партыя 163.737 галасоў, нямецкая дэмакратычная партыя 651.899, Баварская нацыянальная партыя 88.051, незалежныя соцыял-дэмакраты 16.517, нацыянальна-лібэральная і сялянская партыя 6.593, баварскі сялянскі саюз 1.386, партыя працоўнай інтэлігенцыі 1.385, дэмакратычна-соцыялістычная 1.316, партыя унтэр-афіцэраў на пастаяннай службе 2.989. Прыняло ўчасьце ў выбарах 90 процэнтаў жыхараў.

## З РАСЕІ.

### Тав. Ленін аб коопэратывах.

Тав. Ленін з Масквы паслаў у Пецярбург тав. Зіновʼеву гэткую тэлеграму: „як даходзяць весьці, ня гледзячы на дэкрэт з 21-га лістапада, коопэратывы зачыняюць, а іх тавары рэквізуюць; дзеяльнасьць коопэратываў сустракае заўсёды перашкоды на праўнай дарозе, усе гэтыя факты робяць дэзарганізацыю ўнутранага парадку Рэспублікі Радаў.

Гэтым загадаваецца зараз-жа спыніць усе способы нарушаньня або абходу загадаў дэкрэту з 21-га лістапада; належыць узноў адчыніць зачыненыя коопэратывы, вярнуць ім тавар, даць дзеяльнасьці коопэратываў патрэбныя дзеля іх разьвіцьця правы, а таксама зраўняць іх з крамамі належачымі да Рэспублікі Радаў. Прадстаўнікі коопэратываў павінны арганізаваць адумысловыя камісіі. Няспаўненьне або абход дэкрэту будзе караны.

Гэтую тэлеграму загадаваю абвесьціць для выпаўненьня ўсім спаўняючым органам улады ў паўночным воркругу, а таксама абвесьціць ува ўсіх мясцовых газэтах.

МАСКВА. 16. I. У адказ на прапанаваньне Петлюры Сав. Расеі уступіць з ім у перагаворы Народ. Камісарыят адказаў, што Сав. Урад пачне з ім перагаворы толькі тады, як работніцкай партыі на Украіне будзе гварантавана свабода і калі Украіна выступіць процій Антанты.

## З УСЯГО СЬВЕТУ.

### Конфэрэнцыя аб міры.

ЖЭНЕВА. 12 студня. Пасяджэньні конфэрэнцыі аб міры пачаліся ў нядзелю. Найперш разглядаецца пытаньне аб устанаўленьні граніц Францыі з Нямеччынай і вялічыні контрыбуцыі.

## КРОНІКА.

**Беларускі мітынг.** У панядзелак 27-га студня ў 7 гадз. увечары ў Беларускім Клюбе (Юрскі праспэкт № 22) будзе мітынг, ладжаны Левай Фракцыяй Беларускай Соцыялістычнай Грамады і Беларускай Партыяй соцыялістаў-рэволюцыанэраў.

З прамовамі выступяць т.т. Небарака, Войцеховіч і інш. Уваход дарма.

**1-ая Беларуская гімназія.** У чацьвер 23-га студня пачаліся экзамены для паступаючых у 1-ую Беларускую Гімназію ў Вільні. Экзамены ў будынку бышай праваслаўнай духоўнай сэмінарыі. Экзаменуецца шмат.

**Мобілізацыя коммуністаў.** Цэнтральны Комітэт Коммуністычнае Партыі Літвы і Беларусі пастанавіў мобілізаваць усіх сябраў партыі. Усе Савецкія ўстановы павінны прадставіць у найбліжэйшы час спісаньні ўсіх патрэбных данай установе працаўнікоў-коммуністаў. Рэшта павінна паступіць у армію.

Будуць мобілізаваны коммуністы ў Вільні і на правінцыі.

Як чуваць камісарам унутраных спраў мае быць т. Люткевіч Г., цяперашні загадчык справамі Ураду Літвы, каторым будзе т. П. Пожэло.

## З загаду Рэволюцыйнае Ваеннае Рады Літвы.

Усе ваенныя часьці і вайсковыя ўстановы, займаючы кватэры павінны ўвесь інвэнтар прымаць па апісаньню (опісі) і срога глядзець, каб нішто з прынятага не псавалася. За расьцяганьне і псаваньне інвэнтара ў займаных кватэрах будуць адпавядаць камісары і каманды склад часьцей.

Рэквізаваць і трэсьці можна толькі маючы ордэр органаў мясцовай улады радаў.

Усялякая купля еміны часьцямі і ўрадамі можа быць толькі па ордэрам тых-жа органаў мясцовай улады радаў.

Рэволюцыйная Ваенная Рада Літвы абвяшчае, што ўсе загады, надрукаваныя ў органах коммуністычнай партыі Літвы „Коммуніст“ ёсьць запраўднымі для спаўненьня і маюць сілу зараз-жа пасьля апублікаваньня.

Рэдакцыя: *Рэдакцыйны Колектыў.*

Выдавецтва: *Віленскі Камітэт Левае Фракцыі Беларускае Соцыялістычнае Грамады.*

Друкарня „Швітуріс“, Татарская вул. № 20.